*Родная мова, гісторыя, культура — неад'емная частка нашага самаўсведамлення*

# БЕЛАРУШЧЫНА

ДАКУМЕНТАЛЬНА

## «ТЭРМІН МЕНСК, УВЕДЗЕНЫ НАЦДЭМАМІ...»

У сваім артыкуле «Менск стаў Мінскам...» Г. Штыхаў і І. Крамко («Звязда», 27.03.1992 г.), апіраючыся на багаты матэрыял, прыйшлі да слушнай, абгрунтаванай высновы: форма Мінск — вынік не лінгвістычных, а сацыяльна-палітычных працэсаў. Яна ўзнікла не на беларускай глебе, а была навязана палітычнай экспансіяй польскай формы «Міньск», а затым і расійскай «Мінск». Інакш кажучы, Менск быў пахаваны для беларусаў, прычым неаднойчы: першы раз — палякамі, другі — бальшавікамі. Як вядома, свой прысуд назве ў 1939 годзе вынес Вярхоўны Савет рэспублікі. Нам удалося адшукаць дакументы, якія праліваюць святло на тое, як адбывалася псеўданавуковае абгрунтаванне такой замены.

Акцыя была распачата яшчэ ў перыяд першай хвалі рэпрэсій у Беларусі (1929—1933). Тады ж з высокіх партыйных кабінетаў і быў спушчаны загад Беларускай Акадэміі навук, ужо ачышчанай ад фальсіфікаваных «нацдэмаў», а фактычна разгромленай. Нацыянальна-свядомыя вучоныя знішчаліся фізічна. Гэтак жа распраўляліся і з духоўнымі набыткамі. З трыбуны Вярхоўнага Савета БССР быў кінуты лозунг: 70 працэнтаў літаратуры на беларускай мове — у макулатуру. На дзяржаўным узроўні ствараліся спецыяльныя «макулатурныя камісіі». Беларускамоўныя кнігі вымяталіся адусюль, паліліся на кастрах. Нацдэмаўскімі абвясцілі ўсю беларускую тэрміналогію, падрыхтаваныя слоўнікі, праект новага правапісу. Усё перараблялася на расійскі капыл. Такі ж лёс напаткаў і назву сталіцы.

Працытуем дакументы, знойдзеныя намі ў архіве АН Беларусі. З пратакола пасяджэння Інстытута мовазнаўства БАН ад 18.02. 1931 г., парадак дня — «Правапіс назваў гарадоў і раёнаў БССР». **«Пастанавілі: Зыходзячы з таго, што ўся працоўная Беларусь, а таксама суседнія рэспублікі ведаюць і ўжываюць тэрмін Мінск, а толькі нязначная частка Міншчыны гаворыць Менск, — тэрмін Менск, уведзены нацдэмамі, замяніць агульнавядомым тэрмінам Мінск»** (ф. 1, спр. 8, арк. 175). Праз некалькі дзён гэта зацвердзіў прэзідыум БАН (пратакол № 5 ад 23. 02. 1931): **Пастанавілі: Згадзіцца з пастановай Інстытута мовазнаўства аб замене назвы гораду Менск на Мінск. Іншыя ж геаграфічныя назвы раёнаў і гарадоў перадаць Інстытуту мовазнаўства на абгаварэнне»** (там жа, арк. 164). Варта падкрэсліць, што гэта быў ужо новы састаў інстытута, сфарміраваны пасля рэпрэсій вядучых мовазнаўцаў. Узначальваў яго Я. Мацюкевіч.

Прыгледзімся бліжэй да гэтых аргументаў. Па-першае, Менск не быў «уведзены нацдэмамі», бо ў такім разе апошніх давялося б шукаць ажно ў XI стагоддзі. Па-другое, на той час суседнічалі з намі толькі Украіна і Расія. Вядома ж, была зроблена ахвяра «старэйшаму брату». Па-трэцяе, «уся працоўная Беларусь» якраз «ведала і ўжывала» Менск ужо звыш дзесяці гадоў як юрыдычную назву сталіцы. Па-чацвёртае, «нязначная частка», г. зн. жыхары наваколля, захоўвалі сапраўдную назву горада. Сённяшнія падобныя прыклады — Навагрaдак. Радашкавічы. Гэта і ёсць назва народная, жывая. Ды і назву Менск яшчэ можна пачуць далёка ад сталіцы. Напрыклад, у в. Распуцце Пухавіцкага (інфармацыя З. Санько), у в. Пасека Старадарожскага раёна. Засведчыў яе як жывую «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі» (т. 5, с. 212). І гэта пасля татальнай русіфікацыі края! Яна ўжо забытавала і ў іншых гарадах, на старонках друку, на канвертах за мяжу і адтуль. Яе падхапіла і свядомае маладое пакаленне.

**Янка ВОЙНІЧ,**
**навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.**

НЕ ЗНОЙДЗЕШ У СЛОЎНІКУ

### Ездзілі на арбоне, галіліся жылеткай

«Баба, хапай скарэй ванзэлкі — арбон адыходзіць», — гэты выраз у многіх мясцінах Гродзеншчыны жыве і цяпер, праўда, са значным адценнем іроніі і гумару. А ў даваеннай Заходняй Беларусі слова «арбон» было ў прывычным штодзённым ужытку і нікога не здзіўляла і не забаўляла. Пра гэта ў адным з мінулых выпускаў «Беларушчыны» згадвае Валерый Сайко з Ашмян, падаючы ўласную версію паходжання гэтага слова ад слова «арба» — чатырохколавая брычка.

Варыянт цікавы, але наўрад ці мае пад сабой грунтоўную аснову. Не на ўсходзе, а на захадзе хутчэй за ўсё хаваюцца карані слова «арбон». Справа ў тым, што гэта — назва адной заходнееўрапейскай фірмы, аўтобусы якой ахвотна куплялі ў міжваеннай Польшчы. Іх нярэдка можна было спаткаць на дарогах Заходняй Беларусі з кідкай назвай фірмы на радыятары. Машыны такія былі навіной у нашых мясцінах, і прыжылося менавіта гэта слова, якое толькі пасля вайны выцесніў «аўтобус».

Падобны лёс у яшчэ аднаго слова, якое можна спаткаць на Гродзеншчыне — «жылетка» ў значэнні «лязо бяспечнай брытвы». Англійская фірма «Жылет» шырока вядомая ў свеце і цяпер. Праўда, пад уплывам рускай мовы жылеткай на Беларусі зараз часцей называюць камізэльку.

**Валянцін ЖДАНКО.**

ДАРЭЧЫ

## Дзе зроблены «Луч»?

Наш чытач са Светлагорска Міхал Сокур, які працуе шафёрам, уважліва разгледзеўшы прызы віктарыны — гадзіннікі, робіць заўвагу наконт надпісаў. Побач са словамі «Старажытны сімвал Беларусі 13—18 стагоддзяў» стаяць «Сделано в СССР» і «Луч». Такая вось неадпаведнасць.

Не будзем трымаць у сакрэце, што гадзіннікі гэтыя зроблены па спецыяльнаму заказу значна раней, чым «старажытны сімвал Беларусі» — Пагоня стаў нашым дзяржаўным гербам, а таксама знік з палітычнага небасхілу СССР. Але гэты ліст, на наш погляд, усё ж ставіць справядлівае пытанне перад вытворцамі гадзіннікаў вядомай беларускай маркі.

Ды ці беларускай? Мы звязаліся з Мікалаем Якубенкам, начальнікам аддзела знешніх афармленняў Мінскага гадзіннікавага завода і пацікавіліся: якія ж надпісы робяцца на навейшай прадукцыі зараз? Мікалай Ягоравіч прызнаўся, што з задавальненнем размаўляе па-беларуску, але лічыць, што ўвядзенне беларускамоўных надпісаў эканамічна, камерцыйна нявыгаднае. Такім чынам, на розных мадэлях беларускіх гадзіннікаў цяпер робяцца надпісы «Сделано в Беларуси», «Made in Belarus», «Luch». Некаторыя ўзоры па жаданню замежных гандлёвых партнёраў экспартуюцца ўвогуле без фірменнага знака, або з надпісам «Sekunda». Наш суразмоўца выказаў таксама сумненне наконт таго, што ў бліжэйшы час «Луч» возьме сабе нейкі беларускі адпаведнік назвы.

Мы разумеем, што гонар і вядомасць маркі сапраўды ў многім звязаны з яе стабільнасцю і стажам. Але хіба так ужо немагчыма спалучыць прэстыж беларускай маркі з прэстыжам беларускай мовы? Ці прайграла хоць у нечым тая ж «Камсамолка», узяўшы цудоўную назву «Мілавіца»? Зрэшты, варта прыгадаць палажэнне «Закона аб мовах»: «Назвы ў таварных знаках даюцца на беларускай мове». Гэты ж 32-гі артыкул прадугледжвае, што тавары, якія выпускаюцца ў Беларусі, маюць беларускамоўныя маркіроўку, этыкетку, інструкцыі аб карыстанні. (Тое, што ідзе на вываз, можа падпісвацца на мове заказчыка). Нагадваем, закон адводзіць на адпаведную вытворчую падрыхтоўку тэрмін да верасня 1993 года. Чакалі больш — пачакаем паўтара годзіка!

## КАЗКА ПРА РЭАЛЬНАСЦЬ

**Тэатральныя крытыкі і гледачы нячаста сыходзяцца ў станоўчых ацэнках. Але менавіта так адбылося з новай п'есай «Камедыя», пастаўленай Мінскім альтэрнатыўным тэатрам В. Грыгалюнаса. Не перабольшваючы, зазначу, што ўсе аматары сцэны ўжо ведаюць пра гэту навінку, а некаторым нават пашчасціла трапіць у невялікую ўтульную залу, дзе выступае маладая таленавітая трупа.**

**П'еса «Камедыя» пастаўлена А. Андросікам і У. Рудавым па творах, якія напісаны шмат гадоў назад і належаць пяру К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча. Усяго чатыры акцёры заняты ў спектаклі, але якую шырокую гаму характараў ствараюць яны, з якімі скарбамі народнага гумару знаёмяць! Пастаўленая на манер традыцыйнай беларускай батлейкі, п'еса знаёміць з кемлівым беларускім селянінам, яго балбатлівай жонкай, спрытнюгай суседам і самым натуральным чортам. Дарэчы, у адрозненне ад усіх беларускамоўных персанажаў, на сцэне нячысты шпарыць толькі па-руску. Марныя ўсе яго д'ябальскія хітрыкі — так і не адольвае ён няўдачлівага, але памяркоўнага мужыка. Не дзіва, што ў мінулыя гады за такую апрацоўку старажытных беларускіх казак Аляхновіч стаў ахвярай сталінскага тэрору. Да другога аўтара — Марашэўскага — рукі карнікаў не маглі дацягнуцца: на сваё шчасце, ён жыў і пісаў у дзевятнаццатым стагоддзі.**

**Як кажуць, лепш раз паглядзець, чым шмат разоў пачуць. Таму не стану залішне затрымліваць увагу чытачоў, а лепш параю хутчэй паглядзець гэту нашумеўшую п'есу. Яе бліжэйшыя паказы адбудуцца 19 і 26 красавіка.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКУ: усе ўдзельнікі спектакля. Давід — Я. Жураўкін, Маланка — З. Маладых, Чорт — А. Андросік, Дзёма — А. Шуляк.**



Рубрыку вядзе Алена ЦІХАНОВІЧ

## СХІЛІЎШЫСЯ НАД СЛОВАМ

**На пытанні другога тура найбольш правільныя і змястоўныя адказы прыслалі Л. САХАРЧУК з Жабінкі, Г. ЕРАМЕЕЦ з вёскі Полкацічы Іванаўскага раёна, А. СЦЯРЖАНАВА з Віцебска, Г. МІТРАШ з Івянца, В. ВАБІШЭВІЧ з Давыд-Гарадка, а таксама амаль усе тыя, хто вызначыўся ў першым туры (іх прозвішчы мы не паўтараем). Знаёмцеся з адказамі і пытаннямі апошняга, трэцяга тура. Напамінаем, што ён прысвечаны этнаграфіі, фальклору, рэлігіі. Адказы трэба выслаць на працягу 10—12 дзён. Поспехаў!**

### АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ II ТУРА

1. «НА НЯМІЗЕ снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх...» Так, гэта радкі са славутага помніка ўсходнеславянскай літаратуры «Слова аб палку Ігаравым». Яе аўтар апісвае падзеі 1067 года, калі паўднёварускія князі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад Яраславічы, імкнучыся падпарадкаваць Полацкае княства, аб'яднанымі сіламі разбілі на Нямізе войскі полацкага князя Усяслава Брачыслававіча...

Склонавая форма «на Нямізе» адлюстроўвае адметную асаблівасць беларускай мовы: чаргаванне **г, х, к з літарамі з, с, ц: нага — назе, страха—на страсе, рука—у руцэ.** І такіх прыкладаў шмат рассыпана ў тэксце «Слова». Вось, скажам, як у арыгінале: **«Немизе кровави брезе...»** Натуральна, гэта прыводзіць да думкі аб магчымым беларускім паходжанні аўтара сусветна вядомага помніка. Да такой думкі схіляўся, напрыклад, яшчэ У. Сыракомля, параўноўваючы вялікую колькасць супадзенняў моўнага матэрыялу «Слова» і добра вядомых яму жывых народных гаворак. Янка Купала, які зрабіў празаічны і вершаваны пераклады твора, у прадмове да першага пісаў: «Песня аб паходзе Ігара» напісана старой беларуска-славянскай мовай у XII стагоддзі».

Захапляючыся неперяўзыдзенай вобразнасцю метафар паэмы, Максім Багдановіч адзначаў: «Толькі народ, усімі рухамі жыцця свайго прыкаваны да хлебаробства, мог апісаць бітву ў такіх словах».

2. «КАВАРСТВА» другога пытання, як вы здагадваецеся, было ў падборы выпадкаў, калі адна літара можа абазначаць два гукі **(е—йэ, я—йа),** дзве літары — адзін гук **(дж, дз)** і калі літара **(ь)** зусім не абазначае асобнага гука.

Зробім фанетычны аналіз:
**аб'ём** [абйом] — 4 літары, 5 гукаў;
**надзея** [надз'эйа] — 6 літар, 6 гукаў;
**мядзведзь** (м'адз'в'эц'] — 9 літар, 6 гукаў;
**яблык** [йаблык] — 5 літар, 6 гукаў.

Трэба заўважыць, што падобная раскладка можа крыху змяніцца, калі прыняць дыграфы **дж, дз** за асобныя, самастойныя літары. Гэта пытанне, аднак, так да канца і не вырашана ў нашым мовазнаўстве: паводле розных канцэпцый у беларускім алфавіце ці то 32, ці то 34 літары. Вось і выходзіць, што чытачы, якія карысталіся школьнымі падручнікамі, налічылі ў слове «мядзведзь» 9 літар, а тыя, каторыя інстытуцкімі — 7. Усім ім мы залічым адказы правільнымі, дамовіўшыся толькі не рабіць памылак у адным правіле: вымаўляць **дж** і **дз** як адзін гук: **дзень,** каб ён звінеў, а не **д/зень** і г. д.

3. ГРАМАТЫЧНЫЯ ПАМЫЛКІ ў афармленні сталічнага Дома гандлю «Першамайскі» для нашых чытачоў былі відавочнымі.

Першы надпіс: **«Жлобінскае в/а штучнага футру».** Чым выклікана з'яўленне тут «штучнага футру»? Ды тым, што **футра** па матэрыяльнай аналогіі было аднесена да рэчыўных назоўнікаў мужчынскага роду: **бастону, крэпдэшыну, паркалю, шавіёту, шоўку.** Аднак «футра» — гэта слова ніякага роду і яно мае ў родным склоне толькі канчатак -а(-я): **футра, вядра, мора.**

Зусім не па-беларуску ўтвораны прыметнік ад слова Гродна. Замест «гродніскаая» (гэтаксама як і «гродненская») трэба ўжываць: **«гродзенская».**

Цікава разабрацца, чаму ж словы [баранавіцкі], [навагруцкі] на канцы вымаўляюцца аднолькава, а пісацца павінны па-рознаму?

Таму, што па правілах, спалучэнне каранёвых **к, т, ч, ц** з суфіксам **-ск-** дае на пісьме **ц: Гарадок—гарадоцкі, брат—брацкі, Пухавічы—пухавіцкі, Смалявічы—смалявіцкі, Камянец—камянецкі.**

А вось калі перад суфіксам будуць літары **д, з, ж, ш,** то яны павінны перадавацца нязменна: **Навагрудак—навагрудскі, Ліда—лідскі, Нясвіж—нясвіжскі** (хаця і гаворым мы: навагруцкі, ліцкі, нясьвіскі). Заўважаеце, гэта як бы адступленне ад нашага фанетычнага прынцыпу пісьма? Цікава ўспомніць, што Браніслаў Тарашкевіч прапаноўваў у падобных выпадках як бы больш набліжанае да фанетыкі арыгінальнае напісанне: **швэдзскія сярнічкі; у Слуцку ўсё палюдзску; на лад пэрсідзскі ткуць яны.**

4. У ПЕРШЫЯ МЕСЯЦЫ пасля заснавання «Звязды» ў газеце працаваў класік беларускай літаратуры **Максім Гарэцкі.** Рэдакцыя тады была вымушана пераязджаць, пра што пісьменнік згадвае ў сваім нарысе «Смаленск—Менск—Вільня»: «...яшчэ ў Смаленску, у «Западной Коммуне», а можа быць, і ў «Звяздзе» быў змешчаны мой невялічкі артыкул «Няхай жыве Савецкая Беларусь!» Гэта былі, мусіць, першыя прызнаныя беларускія словы ў смаленскіх газетах.

Тады ў Менску мела развінуцца шырокая культурная праца, і я ахвотна згадзіўся на прапанову тав. Кнорына — пераехаць у Менск на сталую працу ў «Звязду»...

У самым канцы сакавіка ці ў самым пачатку красавіка 1919 г. рэдакцыя «Звязды» пераехала з Менска ў Вільню... На прапазіцыю тав. Кнорына паехаў і я...

Мінула тыдні тры — і на Вільню наляцелі легіёны пана Пілсудскага...»

Гэтыя абставіны не дазволілі Гарэцкаму вярнуцца ў БССР, куды ён прыехаў толькі ў 1923 годзе. Яркі талент аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай прозы, навукоўца, фалькларыста не мог не трапіць у жорны рэпрэсій. З 1931 г. Гарэцкі — у Вятцы, Комі... Жыццё абарвалася ў 1939 годзе.

Пісьменнік выступаў пад псеўданімамі Беларус, Максім Беларус, А. Мсціслаўскі, Дзед Кузьма і інш. Пагартайце нядаўна выдадзены яго чатырохтомнік — вы захопіцеся каларытнымі апавяданнямі, духоўнай філасофіяй аповесцей і раманаў «Меланхолія», «На імперыялістычнай вайне», «Камароўская хроніка». Нядаўна вярнулася да чытача яго цудоўная аповесць «Дзве душы».

М. Гарэцкі таксама аўтар «Гісторыі беларускае літаратуры» і хрэстаматыі па ёй, укладальнік руска-беларускага і беларуска-рускага слоўнікаў.

5. СВОЙ СЛАВУТЫ ВЕРШ «О, Беларусь, мая шыпшына» паэт **Уладзімір Дубоўка** напісаў у 1925 годзе. Напярэдадні гадавіны чарнобыльскай трагедыі нам хацелася б уважлівей учытацца ў радкі гэтага здзіўляючага мастацкага прадбачання. Чытайце на наступным тыдні матэрыял «Шыпшына і Чарнобыль».

6. НАЙБОЛЬШ АРЫГІНАЛЬНЫЯ АБРАЗКІ мы змяшчаем сёння пад рубрыкай **«Фальклор у запісах нашых чытачоў».** І гэту рубрыку мы не зачыняем: чакаем новых цікавых запісаў!

### ПЫТАННІ III ТУРА:

**1. Якая з беларускіх жанчын першай была кананізавана царквой у якасці святой?**

**2. Якi абрадавы сэнс чырвонага яйка?**

**3. Што такое мажара, рэзгіны, лазьбень, макотра? Пры якіх занятках яны выкарыстоўваліся?**

**4. Якімі назвамі грошай карысталіся нашы продкі? Якая іх прыблізная вартасць?**

**5. Чым адрозніваюцца праваслаўны, каталіцкі і ўніяцкі крыжы?**

**6. АДГАДАЙЦЕ 7 ЗАГАДАК:**

**«Ішоў генерал, з усіх шапкі паздымаў, а трое не даліся».**

**«Выслана дзяружка, пасыплена гарошку, пакладзены хлеба акрайчык».**

**«Ляжыць мост на сем вёрст, на тым масту яблынька, на яблыньцы цвет на ўвесь белы свет».**

**«Рыбка бялява хвосцікам віляла, лясы ламала, горы стаўляла».**

**«На адной яме сто ям».**

**«Певень сядзіць на варотах у жалезных ботах, пусціў косы па зямлі, голас да неба».**

**«Ішоў, ішоў, дзве дарогі знайшоў і ў абедзве пайшоў».**

ВІКТАРЫНА «НАШЫ КАРАНІ»

### Фальклор у запісах нашых чытачоў

**П'ЯНІЦ НІХТО НЕ ЛЮБІЦЬ**

Мой дзед Антось вельмі не любіў, калі замест працы знаёмыя зашмат пілі гарэлкі, а потым бегалі па суседзях пазычацца. У яго наконт гэтага было заўсёды багата прыказак:
Дагуляліся гулякі: няма ні хлеба, ні табакі.
Не араць, не касіць — абы выпіць-закусіць.
Дзе чарка і скварка — там заўжды і Захарка.
Во сямейка: ані лыжкі, ані міскі, толькі пітво ды калыскі.
І адзеўся, як пан, а напіўся — стаў баран.

**Прыслаў Уладзімір КАСЮДЭК з Ашмян.**

**КАРМІЛІЦА**

— Стася, што ты такое цяжкое нясеш?

— А ты не бачыш? Гэта ж дыня. Дзецям нясу. Няхай **паёдваюць** (г.зн., паядуць, наядуцца).

**БЯДА**

— Вунь як Матруна ўбіваецца. Пахавала мужыка, а ейны сынок ледзь ці не ўсё на вецер пускае.

— Ой, Божачка-Божа! Бацькі нажывалі мазалямі, а дзеткі пражываюць горлам.

**Прыслала Жанна РАДЗІШЭЎСКАЯ са Смаргоні.**

**ЖАНОЧАЯ ДОЛЯ**

Сустрэліся дзве жанчыны, завялі размову. Адна другой скардзіцца:

— Пайшла я на пенсію. Працы ўсё роўна шмат, а сілы ўжо няма. Дзеці павырасталі, і ўнукі ёсць, а дапамагчы няма каму. Думалася ж, што хоць старасць будзе лягчэйшай.

— Даражэнькая, ці ты не ведаеш, што колькі кабыла не жарабіся, а хамут да веку?

**Прыслаў Уладзімір ДРАБЫШЭЎСКІ, з вёскі Зялёнка Полацкага раёна.**

## Альпінарый

**Той, хто хоча мець на сваім дачным ці прысядзібным участку ўтульны, любы сэрцу куток, дзе так прыемна правесці хвіліны адпачынку, безумоўна, даўно звярнуў увагу на маляўнічыя «альпійскія горкі» — умелае спалучэнне прыгажосці дрэў, раслін, кветак і каменю. Тут вельмі добра думаецца, адпачываецца.**



**Альпінарый** — гэта спроба кветкавода ўзнавіць у мініяцюры элементы горнага ландшафту. Тут прыгожа ўсё — і сціплая трава, і ўзорысты мох, і строгія камяні, і, вядома ж, яркія фарбы кветак, падабраныя так, каб цвіценне працягвалася ўсё лета.

Перш за ўсё **горка павінна добра абаграваццa сонцам,** таму лепш, каб яна не прымыкала да іншых пасадак, пладовых дрэў. Плошчу яна можа займаць розную, усё залежыць ад вашых магчымасцей.

Галоўнай структурнай асновай альпінарыя з'яўляецца **камяністае ядро.** Матэрыялам можа быць гравійны шчэбень і крыху пяску. Пры засыпцы выкарыстоўваецца драўляная апалубка, якая дазволіць мець атрымаць форму і добра ўтрамбаваць матэрыял, што вельмі важна. Усе пустоты трэба шчыльна забіць глініста-дзярновай зямлёй.

Далей — **устаноўка камянёў.** Яны не павінны значна адрозніваццa па форме, афарбоўцы. Трэба, каб яны ляжалі, а не стаялі тырчма. Не менш чым на палавіну вышыні камяні трэба засыпаць глебавай сумессю.

Сумесі для розных па вышыні ўчасткаў рыхтуюць розныя. Самыя верхнія сонечныя ўчасткі засыпаюць сухой, камяніста-пясчанай глебай (суадносіны арганікі і неарганікі 2:1). Сонечная паўднёвая сярэдняя частка атрымлівае сухую дзярнова-пясчаную глебу (3:1). На менш асветленыя ўсходнія і заходнія месцы пойдзе дзярнова-друзавая, узбагачаная гумусам водапранікальная зямля (4:1). Ніжнія сонечныя ўчасткі можна адвесці для раслін, якія любяць суглінкі. А малаасветленыя паўночныя і паўночна-заходнія экспазіцыі пакрываюць звычайнай садовай зямлёй.

А цяпер — галоўнае: **што і дзе пасадзіць,** каб горка ў любую пару года радавала вока? Варыянтаў — безліч. Вось некаторыя парады.

**На беднай сухой глебе** ў верхняй частцы горкі можна размясціць гваздзікі кароткасцябловыя, бурачок скальны, маладзіла, паўкустоўе (напрыклад, чабор паўзучы і на яго фоне — снежна-белыя шапкі іберысу вечназялёнага).

**На сонечным месцы,** але ніжэй, садзяць флокс шылападобны, абрыету гібрыдную. Разрастаючыся, яны ствараюць своеасаблівую стракатую падушку.

Незаменную для альпінарыя камнялoмку лепш пасадзіць **у ніжняй частцы паўднёвага боку** (але не забывацць, што яна любіць вільгаць). Многія віды камнялoмкі (ценявая, дзярністая) любяць поўдзень, і іх можна размясціць па суседству з дрэвамі.

Расходнік — дзіця сонца, не пераносіць застою вады, лепш расце на сухой пясчана-камяністай глебе. Дыванкі гэтых раслін хутка разрастаюцца, а вы пастарайцеся падабраць расліны розных адценняў, форм.

Калі мы хочам любавацца каскадам кветак з вясны да глыбокай восені, абавязкова пасадзім у альпінарыі пралескі, белакветнікі, цюльпаны, пушкінію, мускары, восеньскія крокусы, бесчаснікі. Пералік — бясконцы, але лепш аддаць перавагу дробным кветкам і дзікім відам цыбулькавых. Варта дадаць сюды расліны, якія доўга цвітуць — макі, сонцацветы, энацеру місурыйскую, гейхеру гібрыдную, карпацкі званочак.

**Нельга забываць і на акцэнты** — аднолькавыя, дастаткова буйныя расліны. У кожнага ёсць свае любімыя (карлікавыя елкі, ліліі, ліятрыс каласковая і г. д.). Цудоўна глядзяцца гарачаўкі, рамонды.

І апошняя група — «і іншыя». Гэта ўсё, што падкажа нам густ, вопыт прафесіяналаў. У нашым горадзе шмат такіх горак — у Батанічным садзе, каля кінатэатра «Кастрычнік» (гл. здымак), у іншых месцах. З поспехам выкарыстоўваюцца прастрэл звычайны, хахлаткі, адоніс вясновы, вадазбор, разуха, папаратнікі, лапчаткі, рададэндроны...

**ВОСЬ АДНА ПРОСТАЯ СХЕМА АЛЬПІНАРЫЯ:**

**РАЗРЭЗ А—Б: 1 — расходнік едкі, 2 — прастрэл звычайны, 3 — астра гімалайская, 4 — гарачаўка бессцябловая, 5 — анафалес, 6 — сонцацвет, 7 — карлікавая елка, 8 — крупка сібірская, 9 — гарачаўка цянь-шаньская, 10 — гваздзікі кароткасцябловыя, 11 — адоніс веснавы, 12 — расходнік тонкі.**

**РАЗРЭЗ В—Г: 1 — камнялoмка дзярністая, 2 — кедр сібірскі, 3 — рэзуха выбягаючая, 4 — іберыс вечназялёны, 5 — чабор паўзучы, 6 — кізільнік гарызантальны, 7 — расходнік атотылкавы.**

## Парады на ўсякі выпадак

Шпулька з-пад швейных нітак можа стаць зручным прыстасаваннем для выдалення з патрона цокаля лопнуўшай электрычнай лямпачкі.

Не разбіраючы шарніра ў аправе акуляраў, змажце галоўку і кончык вінта сінтэтычным клеем, і вінт не будзе сам па сабе выкручвацца.

Накрыйце гаршчок з-пад кветак кружком, які трэба выразаць з поліэтыленавай плёнкі, і вам не трэба будзе так часта паліваць пакаёвыя кветкі, асабліва летам.

Калі прыклеіць да пластмасавага футляра трымальнік ад непатрэбнай ужо аўтаручкі, футляр для акуляраў не будзе раз-пораз вывальвацца з кішэні.

